

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.
VII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 7 (108) | 20 красавіка 1931 г. | № 7 (108)

## ЗЬМЕСТ.



---

## Пастанова Будаўнічай Сэкцыі Дзяржаўнай Плянавай Камісіі БССР.

### 24. Ліміты кошту аднаго кубамэтра непрамысловага будаўніцтва па БССР на 1931 г. і правілы іх ужываньня.

На падставе пастановы Эканамічнай Нарады БССР за 18 лютага 1931 г. „Пра зьніжэньне кошту будаўніцтва на 1931 г." устанаўляюцца наступныя ліміты кошту аднаго кубамэтра непрамысловага будаўніцтва па БССР на 1931 г. і правілы іх ужываньня:

1. Для рабочага жыльлёвага будаўніцтва ўстанаўляюцца наступныя ліміты кошту 1 кубамэтра будынкаў:

а) для звычайных цагляных шматпаверхавых будынкаў з агнетрывалым дахам, на каменным падмурку з драўлянымі паміжпаверхавымі перакрыцьцямі, за выключэньнем памяшканьняў, якія паводле будаўнічых правіл павінны мець агнетрывалыя перакрыцьці, без вадаправоду і каналізацыі, з пячным ацяпленьнем, з унутранай і знадворнай атынкоўкай і ўнутранай электраправодкай і ўводам;

б) для будынкаў драўляных (рубленых) з 22-см. круглага лесу, з агнятрывалым дахам, на каменным падмурку, з пячным ацяпленьнем, без вадаправоду і каналізацыі, без унутранага і знадворнага атынкаваньня сьцен, а таксама без знадворнай абшыўкі і афарбоўкі:

| Месца пабудовы | Каменныя | | Драўляныя | |
|---|---|---|---|---|
| | Руб | Кап. | Руб. | Кап. |
| 1. У гарадзкой мяжы . . . . . . | 15 | 65 | 12 | 00 |
| 2. У іншых мясцох . . . . . . . | 15 | 65 | 11 | 00 |

*Увага* 1. Тэхнічнае апісаньне работ па грамадз. будаўніцтву гл. у дадатку да гэтае пастановы.

*Увага* 2. Кошт дамоў камун і інтэрнатаў як з паасобнымі памяшканьнямі для жыльля, так і з абагуленымі спальнямі, пры наяўнасьці іншых абагуленых памяшканьняў, вызначаецца па вытворчых каштарысах; для арыентыровачных разьлікаў можа быць прынята наступнае зьніжэньне лімітаў:

каменных з паасобнымі памяшканьнямі на — 5%
драўляных „ „ „ — 9%
каменных з абагуленымі спальнямі на — 10%
драўляных „ „ „ — 17%

2. Ліміты кошту 1 кубамэтра іншага будаўніцтва ўстанаўляюцца ў параўнаньні з лімітамі кошту кубамэтра жыльлёвага будаўніцтва (арт. 1) наступным чынам:

а) для школьнага сельскага будаўніцтва—на 5 проц. ніжэй, гарадзкога-ж школьнага будаўніцтва—бяз зьмен;

Увага. Пры гатовай (дармовай) дастаўленай на месца пабудовы драўніне—на 25 проц. ніжэй.

б) клюбнага—бяз зьмен;

в) больнічнага хірургічнага і фызіо-тэрапэўтычнага—на 20 проц. вышэй;

г) паліклінік, навукова-дасьледчых інстытутаў, псыхіатрычных і інш. больніц і санаторый—на 15 проц. вышэй;

д) дамоў адпачынку, амбуляторый, ясьляў, кансультацыйных і сэзонных устаноў—мураваных—бяз зьмен, а драўляных—на 3 проц. вышэй

е) мэханізаваных грамадзкіх сталовак і фабрык-кухань—на 15 проц. вышэй;

ж) сталовых разьмеркавацеляў—на 5 проц. ніжэй;

з) іншых грамадзкіх пабудоў—бяз зьмен;

і) грамадзкіх лазьняў і пральняў—на 5 проц. ніжэй для драўляных і на 2 проц. ніжэй для мураваных;

к) будынкаў рэзьніц—на 10 проц. ніжэй;

л) гаражоў і пажарных дэпо—на 15 проц. ніжэй;

м) будынкаў тыпу ўнівэрмагаў—бяз зьмен;

н) будынкаў тыпу хлебазаводаў—на 10 проц. ніжэй.

3. Ліміты іншых пабудоў, якія не падыходзяць пад пералічаныя ў арт. 2 тыпы, вызначаюцца на падставе вытворчых каштарысаў.

4. У ліміт кошту будаўніцтва ўваходзяць усе выпадкі па правядзеньні будаўнічых і апрацовачных работ, а таксама ўсе арганізацыйныя і накладныя выдаткі.

5. Звыш устаноўленых вышэй лімітаў дабаўляюцца да асноўнога ліміту:

а) для каменных будынкаў ня звыш 2 паверхаў — 4 проц.,

б) „ „ „ 3-х паверхавых — 2 проц.,

в) у выпадку пабудовы цэнтральнага ацяпленьня і вэнтыляцыі (ацяпленьня—6 проц. і вэнтыляц. —2 проц.). . . . . . . . . . . — 8 проц.

г) у выпадку пабудовы ў драўляных будынках вадаправоду альбо каналізацыі:

| | Для аднапаверхавых | Для двухпаверхавых. |
|---|---|---|
| Пры пабудове вадаправоду . . | 4, 5 проц. | 3, 5 проц. |
| „ „ каналізацыі . . | 4, 5 „ | 3, 5 „ |
| „ „ у каменных будынках (незалежна ад колькасьці паверхаў): | | |
| вадаправоду . . . . . | 3,25 „ | — |
| каналізацыі . . . . . . | 3,25 „ | — |

д) за знадворнае далучэньне вадаправоду і каналізацыі—ў залежнасьці ад мясцовых умоў, але ня звыш 1/2 проц.

е) за ўнутраную электраправодку ў драўляных будынках, уключаючы ўвод . . . . . . . . . . — 1,5 проц.

ж) у выпадку пабудовы балконаў ня меньш 50 проц. колькасьці кватэр да . . . . . . . . . — 1 проц.

з) пры пабудове ў кожнай кватэры душаў . . — 2,5 проц.

і) „ „ „ „ ванн і душаў . — 5 проц.

**Увага 1.** Пры меншай колькасьці ванн альбо душаў процант дабаўкі адпаведна зьніжаецца.

**Увага 2.** Ставіць ванны дазваляецца ў кватэрах з плошчаю ня меньш 54 м².

к) у выпадку пабудовы ліфтаў кошт самога ліфту ў ліміт не ўваходзіць;

л) калі патрэбна ў драўляных будынках зрабіць унутраную атынкоўку альбо знадворную абшыўку і афарбоўку—па 4 проц.;

м) пры ўвядзеньні ў жылых будынках абсталяваньня паводле новых патрабаньняў тэхнікі і быту ад кошту ўсяго будынку альбо абсталяванай часткі:

сьценных шафаў — 1 проц.
халадзільных шафаў — 0,5 „
сьмецьцеправодаў — 0,5 „

н) пры пабудове звычайных асобных знадворных будынкаў і і пакватэрных прыбудоў (сараяў, скляпоў, памыйных ям і ўборных):

для драўляных дамоў—да 7 проц.;
„ мурававаных „ —„ 3 „

о) для патрэбнага ўнутранага і знадворнага дабрабыту (пляніраваньня плошчы вучастку, упарадкаваньня пешаходных сьцежак і тратуараў, агародка, вароты, каліткі і г. д.):

для будынкаў ня меньш 2 паверхаў — 3,5 проц.;
„ „ шматпаверхавых — 2,5 „

**Увага.** Унутраны дабрабыт—0,5 проц., знадворны для будынкаў мураваных і драўляных да 2 паверхаў—3 проц., а для шматпаверхавых—2 проц.

6. Ліміты для пабудоў розных віdаў палегчанай канструкцыі, з ужываньнем новых будаўнічых матарыялаў, устанаўляюцца з падлікам фактычнага зьніжэньня кошту іх параўнальна з асноўнымі канструкцыямі і падачаю каштарысных вылічэньняў.

Для арыентыроўкі для іх устанаўляюцца наступныя ліміты:

а) для шлакабэтоннага будаўніцтва з паніжэньнем супроць цаглянага—на 3 проц.;

б) для цёплых бэтонаў з паніжэньнем супроць цаглянага будаўніцтва:

1) жалеза-бэтонных канструкцый—без паніжэньня;

2) масыўных шлакабэтонных элемэнтаў з запаўненьнем цёплабэтонам
3) пустацелых шлакабэтонных каменьняў
4) трэпела-бэтонных
5) кладкі па сыстэме Герарда
6) „ з трэпелавай цэглы
7) „ з нармальнае порыстае цэглы ($1^1/_2$ цэг.)

— на 3%

8) „ з пустацелых бэтонных каменьняў—на 5%

9) кладкі з састаўных каменьняў агнятрывалых канструкцый з ужываньнем уцяпліцеляў у выглядзе гэракліта, торпалеўма і інш. фібралітаў . . . . . . . . . —на 3%.

в) для палегчаных канструкцый драўлянага будаўніцтва з паніжэньнем супроць бярвенчатых пабудоў:

1) каркасна-засыпных з засыпкай сухім торпам, сфагнумам, сухім шлакам і інш. цёпла-ізаляцыйнымі матарыялямі таўшчынёю да 20 см.,
2) каркасна-шчытавых швэцкага тыпу у залежнасьці ад канструкцыі і складу ацяпліцеляў,
3) каркасна-шчытавых з сьценамі з торпу-фанэры, камышытаў і інш. роўнакаштоўных па канструкцыі і цёпла-ізаляцыйных уласьцівасьцях тыпаў,
—на 5%

4) каркасна-тыпавых і каркасных не засыпных драўляных канструкцый, пакрытых агнятрывалай фарбай . . . . . . . . —на 10%

5) драўляных стаячых, з абліцоўкаю цэглаю (у 1/2 цэглы) з запаўненьнем пустот шлакам, торпам і інш. матарыялямі—па выканаўчых каштарысах;

г) для будаўніцтва з сырцовай кладкі з паніжэньнем супроць будаўніцтва з апаленае цэглы—на 6 проц.

7. Для будынкаў мяшаных канструкцый (часткова каменных, часткова драўляных) ліміты вызначаюцца асобна для каменных частак і асобна для драўляных, паводле устаноўленых для кожнага роду будаўніцтва норм.

8. Кошт першапачатковага рамонту, патрэба якога зьявілася з прычыны ужываньня сырога лесу, а таксама кошт асадачнага рамонту у паказаныя ліміты ня уключаны.

Ацэнка кошту гэтых работ устанаўляецца дадаткова да норм агульнага кошту, але у разьмеры ня звыш $1^1/_2$ проц. для каменных будынкаў і 2 проц. для драўляных.

9. Ліміты для сутарэньняў у шматпаверхавых дамох, абсталяваных катламі цэнтральнага ацяпленьня і драўлянымі сараямі (пры наяўнасьці дравяных кухонных ачагоў) вызначаюцца у разьмеры 45 проц. агульнай ацэнкі кубамэтра асноўнай пабудовы, пры чым абсталяваньне будынкаў кацельнымі, памяшканьнямі для дроў і інш. у сутарэньні дазваляецца выходзячы з разьліку плошчы апошніх, напрыклад: па 4—8 кв. м. на кожную кватэру.

10. Калі у паўсутарэньнях будуюцца жылыя памяшканьні, а ў сутарэньнях—клюбы, сталоўкі, ванныя, пральні, абсталяваньне цэнтральнага ацяпленьня з поўнай унутранай абробкай па тыпу верхніх паверхаў жылога дому, то ліміты для іх устанаўляюцца па норме ўсяго жылога дому бяз зьніжэньня, за выключэньнем толькі кацельнай, кошт якой вызначаецца паводле арт. 9.

11. Знадворныя лесьвічныя клеткі з дашчатымі сьценамі расцэньваюцца на 50 проц. ліміту самога будынку.

12. Кубатура будынкаў вызначаецца памнажэньнем плошчы будынку па знадворнаму абводу 1-га паверху (вышэй цокалю) на вышыню будынку, лічачы вышыню ад сярэдняй адзнакі сплянíраванай паверхні зямлі (ці тратуару), якая прылягае да пэрымэтру будынку, да падлогі падстрэшнага памяшканьня, пры адсутнасьці сутарэньня і пры вышыні цокалю ня больш 0,7 мэтра.

Увага 1. Пры наяўнасьці сутарэньня або паўсутарэньня вышыня іх вымяраецца ад падлогі да сярэдняй адзнакі сплянíраванай паверхні зямлі (тратуару), а вышыня самога будынку лічыцца ад тэй жа сярэдняй адзнакі сплянíраванай паверхні зямлі (тратуару) да падлогі падстрэшнага памяшканьня.

Увага 2. Ліміты для мансарднага паверху устанаўляюцца як для драўляных будынкаў і аб'ём яго вызначаецца памнажэньнем плошчы па знадворнаму абмеру сьцяны яго на сярэднюю вышыню ад падлогі да верхняй плошчы перакрыцьця.

Увага 3. Кубатура цёплых часьцей будынку, якія выступаюць вышэй 1-га паверху, уключаецца у агульны аб'ём будынку.

Увага 4. Ў драўляным будаўніцтве знадворныя лесьвічныя клеткі і інш. халодныя будынкі у абшыўных сьценах у кубатуру будынку ня уключаюцца.

13. Ровень падлогі 1-га паверху, пры адсутнасьці паўсутарэньня або сутарэньня, павінен быць ня вышэй 70 см. сярэдняй адзнакі паверхні зямлі, якая прылягае да пэрыметру будынку, але ня ніжэй 30 см. ад вышэйшай адзнакі. Калі патрэбна, у зьвязку з вялікімі спадамі, пабудаваць цокаль вышэй 70 см. ад сярэдняй адзнакі, нормы захоўваюць сілу пры умове вызначэньня кубатуры будынку з разьліку ўмоўнай вышыні цокалю ў 70 см.

14. Пры вызначэньні лімітаў кошту аднаго кубамэтру жыльлёвага будаўніцтва прыняты пад увагу наступныя ўмовы:

а) вышыня жылога памяшканьня ад падлогі да столі прынята ў 3 мт;

б) таўшчыня перакрыцьцяў—0,35 мэтра;

в) вышыня цокалю—0,70 мэтра (гранічная).

Увага. Пры меншай вышыні памяшканьняў жылых дамоў асноўныя ліміты павялічваюцца на 1,5 проц. на кожныя 10 см. паменшэньня вышыні супроць 3 мэтраў.

15. Для забясьпечаньня у мэтах эканоміі і рацыяналізацыі пляніроўкі трэба пры праектаваньні кіравацца суадносінамі: 1) аб'ёму пабудовы да карыснай плошчы, 2) жылой плошчы да карыснай і 3) кубатуры да жылой плошчы, якія паказаны у „Нормах“ (лімітах) кошту аднаго кубамэтру рабочага жыльлёвага, школьнага і больнічнага будаўніцтва і правілах іх ужываньня ў 1929/30 г.“ (Бюл. СНК БССР 1930 г. № 3, арт. 18).

16. Запрапанаваць усім будуючым і будаўнічым арганізацыям, дзяржаўным, каперацыйным і акцыйным т-вам з пераважным удзелам дзяржаўнага і каперацыйнага капіталу ўжыць патрэбныя захады, каб фактычна кошт будаўніцтва 1931 г. не перавышаў памянёных вышэй норм

17. Памянутыя нормы кошту зьяўляюцца гранічнымі. Падвышэньне кошту будаўніцтва звыш устаноўленага па нормах можа быць дазволена арганізацыям, праводзячым будаўніцтва, іх цэнтральнымі установамі толькі у выключных выпадках, якія не залежаць ад забудоўшчыкаў (напр. умовы грунту, замена дэфіцытных матарыялаў больш дарагімі, дальнасьць гужавой перавозкі матарыялаў ад водных ці чыгуначных шляхоў і г. д.) Неабходнасьць падвышэньня павінна быць даведзена разьлікамі.

У тых жа выпадках могуць быць павялічаны Камунбанкам разьмеры крэдытаваньня будаўніцтва.

18. У паасобных выпадках пры наяўнасьці асабліва ільготных умоў для данага будаўніцтва, не прадугледжаных законам (напрыклад: атрыманьне на ільготных умовах матарыялаў, рабочай сілы, перавозных сродкаў і інш.), устаноўленыя нормы кошту, а таксама разьмеры крэдытаваньня павінны быць адпаведна зьніжаны.

Загадчык Будаўнічай Сэкцыі Дзяржаўнай Плянавай Камісіі БССР **Штыфман.**

Кансультант—Інжынэр **Нарэйка.**

2 красавіка 1931 г.

Дадатак.

**Тэхнічнае апісаньне работ па грамадзянскаму будаўніцтву для кіраваньня пры ўжываньні лімітаў кошту аднаго кубамэтра непрамысловага будаўніцтва па БССР на 1931 г. і правіл іх ужываньня.**

### I. Агульныя палажэньні.

А. Зацьверджаныя ліміты зьяўляюцца асноўнымі расцэнкамі кошту аднаго кубамэтра ўсякага роду будынкаў па грамадзянскаму будаўніцтву.

Б. У аснову паказаных лімітаў узят кошт аднаго кубамэтра звычайнага тыпу жылога будынку, пабудаванага паводле запатрабаваньняў будаўнічай тэхнікі і паказаных ніжэй тэхнічных умоў, з мясцовых будаўнічых матарыялаў.

В. Пры выяўленьні агульнага кошту аднаго кубамэтра будынку да асноўных лімітных расцэнак папярэдня дабаўляюцца або зьнімаюцца проценты, паказаныя ва ўвазе да арт. 14, калі яны павінны ўжывацца, і на зьменены ліміт робяцца ўсе астатнія надбаўкі або зьмяншэньні, якія паказаны ў арт. арт. 2—8, прычым процантныя налічэньні на рызыку і прыбытак буд. арганізацый дадаюцца пасьля выяўленьня сумарнага лімітнага кошту аднаго кубамэтра.

Г. Устаноўленыя ліміты прыняты пры чыстай вышыні памяшканьняў у 3 мэтры для жыльлёвага будаўніцтва з асобнымі кватэрамі; пры іншай вышыні ўстаноўленыя асноўныя ліміты павялічваюцца альбо памяншаюцца паводле ўвагі да арт. 14.

Для іншага будаўніцтва асобнага прызначэньня ўвага да арт. 14

не пашыраецца нават у тых выпадках, калі вышыня ў 3 мэтры павялічваецца або зьмяншаецца.

Д. Установленыя ліміты ахапляюць выкананьне работ і ўжываньне матарыялаў у тых межах, якія ўстаноўлены дырэктыўнымі органамі, рэгулюючымі будаўніцтва.

### II. Тэхнічныя ўмовы.

А. Па ўстаноўленых лімітных расцэнках аднаго кубамэтру будынку будаўнічыя арганізацыі робяць:

1) пляніроўку пляцу навокал мяркуемага будынкў на 2 мэтры і пад самым будынкам;

Увага. Пад пляніроўкай вучастку трэба разумець зьняцьце невялікіх бугроў, засыпку невялікіх ям, вырубаньне кустарніку і правядзеньне звычайных сьцёкаў для дажджавой вады.

2) копку катлаванаў у звычайным або ў глiністым грунце без вадаадліву пры глыбіні ў сярэднім да 1,5 мэтраў з устаноўкай ашчытоўкі для папярэджаньня абвалаў зямлі, калі гэта па ўмовах грунту будзе патрэбна;

3) кладку фундамэнтаў вышынёю ў сярэднім да 1,5 мэтр. з булыжнага або бутавага каменьня шырынёю паводле статычнага разьліку пры вышыні будынкаў да 3 паверхаў—на вапнавай рашчыне і на мяшанай 1 :1 : 12—пры большай вышыні будынкаў;

4) кладку сьцен з цэглы шырынёю паводле статычнага разьліку і абавязкова на вапнавай рашчыне;

Увага. На мяшанай альбо цэмэнтавай рашчыне павінна праводзіцца кладка асобных элемэнтаў, дзе гэта будзе выклікана разьлікам альбо канструкцыйнымі меркаваньнямі.

5) паміжпаверхавыя перакрыцьці драўляныя без накатаў агульнай таўшчынёю ня звыш 35 см., якая складаецца з драўляных бэлек, падшыўкі столі з дошак таўшчынёю ў 37 мілімэтраў, лёгкай змазкі і ўкладкі на бэльках падлогі з дошак нешпунтаваных таўшчынёю 50 мілімэтраў на шыпах, або шпунтаваных таўшчынёю 37 мілімэтраў з прыбіўкай у абодвых выпадках плінтусаў і галцеляў стандартнага тыпу;

6) пераборкі ў мураваных будынках для выдзяленьня пакояў асобных кватэр з дошак таўшчынёю 50 мілімэтраў з атынкоўкаю з абодвых бакоў, а таксама для аддзяленьня кватэр аднае ад другой абшыўныя пераборкі з атынкоўкай па толю або лямцу пры таўшчыні дошак ня звыш 25 мілімэтраў.

Атынкоўка драўляных будынкаў у асноўныя ліміты не ўваходзіць.

Увага. Замест драўляных пераборак атынкаваных з абодвых бакоў, апошнія могуць быць зроблены іншай канструкцыі: амэрыканскага тыпу (рэячныя), фібралітавыя, алябастра-камышовыя і г. д.

7) атынкоўку мураваных сьцен—вапнавую, а драўляных канструкцый—вапнава-алябастравую пад правіла і з падугай ў столі;

8) вокны, дзьверы, лесьвіцы, падваконьнікі—стандартнага тыпу і разьмераў па ўстаноўленых нормах. Ваконныя і дзьвярныя прылады—

чорналякіраваныя сярэдняга разьмеру па ўзору, устаноўленаму заказчыкам;

9) афарбоўку сьцен і столі—клеявую ў 2 фарбы без трафарэтак, але з адбіўкай калёўкі;

10) шкленьне з звычайнага шкла на падвойным кітаваньні;

11) перакрыцьці у прыбіральнях, ванных і душавых пакояк, на пляцоўках лесьвіц—ваданепрапушчальныя з пакрываньнем цэмантаваю змазкаю з жалязьненьнем або цэмэнтавымі плітамі;

12) парэнчы на бэтонных альбо мураваных лесьвіцах—жалезныя простага рысунку з драўлянымі поручнямі, адшліфаванымі і закругленымі на паваротах;

13) дах—з агнятрывалых матарыялаў;

14) афарбоўку падлогі, сталярных вырабаў, даху—адзін раз з папярэдняй праліўкай і шпаклёўкай;

15) прылады для апалу—радзіатары ў жылых пакоях і рэбрыстыя—ў няжылых памяшканьнях;

Увага. Устаноўленыя працантныя налічэньні пры пабудове цэнтральнага ацяпленьня робяцца пры ўмове пабудовы кацельнай у сутарэньні будынку, што будуецца.

Б. Пры пабудове ў будынку вадаправоду і каналізацыі будаўнічая арганізацыя павінна ўстанавіць пажарны трубавод, фаянсавыя клязэты з бачкамі і чыгунныя эмаліраваныя ўмывальнікі і ракавіны з звычайнымі кранамі.

Увага. Гарачае вадаснабжэньне і прыстасаваньне да супроцьпажарнага трубаводу аплачваюцца асобна. Пры ўстаноўцы ванн ўмывальнікі не ўстанаўліваюцца.

Калі будуюцца ванны, то яны ўстанаўліваюцца чыгунна-эмаліраваныя з абсталяваньнем як: краны, зьмешвацелі, душы і вадагрэйныя калонкі; пры дагаворанасьці старон—гарачае вадаснабжэньне для ванны можа быць зроблена непасрэдна з кухні, з абсталяваньнем у пліце спэцыяльнай арматуры, альбо з кацельнай устаноўкі пры ўмове ўстаноўкі асобнага катла.

В. Пры кладцы знадворных сьцен жыльлёвага будаўніцтва ў дзьве цэглы робіцца абавязкова знадворная атынкоўка; пры кладцы знадворных сьцен у 2,5—3 цэглы атынкоўка знадворных сьцен ня робіцца; кладка фасадных сьцен робіцца з адборнай цэглы з расшыўкай, альбо з падрэзкай швоў, абмыўкай фасаду і афарбоўкай клеяваю фарбай.

Г. Калі ў будынках устанаўляецца пячны апал, то печы будуюцца ўтэрмаркаўскія кахляныя і цагляныя з абліцоўкай неглазураванаю кахляю.

Д. Электрычнае асьвятленьне праводзіцца адкрытай праводкай, апроч выпадкаў, дзе асобнай інструкцыяй патрабуецца праводка з павышанай ізаляцыяй.

**III. Парадак зьмены лімітаў.**

А. Усякага роду зьмены, прадугледжаныя пастановай Эканамічнай Нарады БССР за 18/II-1931 г. праводзяцца мэханічна паводле п. „В" першага разьдзелу гэтага тэхнічнага апісаньня.

Б. Усякага роду зьмены, якія падаражаюць альбо патаняюць вытворчасьць работ паводле лімітаў і тэхнічнага апісаньня, зьяўляюцца пытаньнямі дадатковага падвышэньня альбо зьніжэньня лімітных цэн па згодзе абодвых старон, а пры спрэчках—паводле маючыхся пастаноў.

Загадчык Будаўнічай Сэкцыі Дзяржаўнай Плянавай
Камісіі пры СНК БССР **Штыфман.**
Кансультант-Інжынэр **Нарэйка.**

## Інструкцыя Упаўнаважанага СНК БССР па вясеньняй пасеўнай кампаніі.

### 25. Аб спаранай язьдзе на трактарох у сельскай гаспадарцы БССР.

***Бел. Аддз. Трактарацэнтру, Белкалгасцэнтру, Белсаўгастрэсту, Белканторам: Галоўленкому, Саюзхлеба, Маслатрэста, Насентрэста, Сьвінавода, Белкапсаюзу, Сэктару кадраў НКЗ і Арг. сэктару.***

Неабходнасьць лепшага скарыстаньня трактароў у палявы пэрыяд 1931 г., утрыманьня іх у належным становішчы патрабуюць абавязковага зьнішчэньня парадку работ на трактарах рознымі трактарыстамі і абавязковага замацаваньня трактароў за вызначанымі трактарыстамі ў кожнай зьмене.

1. Як агульнае правіла, усе трактары павінны працаваць ня менш 20—24 гадзін у суткі ў палявы пэрыяд, гэта значыць ад 2-х да $2^1/_2$ зьмен пры 10-гадзінным рабочым дні і ад $2^1/_2$ да 3 зьмен—пры 8 гадзінным дні.

2. Кожны трактар у кожную зьмену альбо яе частку абслугоўваецца раней вызначанымі і замацаванымі на ўвесь палявы пэрыяд трактарыстамі такім чынам, каб ніякіх перасовак трактарыстаў за ўвесь час палявога пэрыяду не рабілася.

Увага. Адступленьні робяцца толькі ў выпадках захварэньня, звальненьня трактарыстаў і інш.

3. Пры працы на бесьперапынным тыдні зьменныя трактарысты абавязкова прымацоўваюцца стала да тых трактароў, на якіх яны замяняюць выхадных трактарыстаў.

Увага. У адносінах працы складаных с.-г. машын (сеялкі снапавязалкі, касілкі і г. д.) абслугоўваючы іх пэрсанал таксама трэба прымацоўваць пэрсанальна да адпаведных машын.

4. Да кожнага трактарыста прымацаваць па аднаму бронь-вучню з ліку найбольш сьвядомых, фізычна разьвітых і сацыяльна-падыходзячых рабочых саўгасаў—у саўгасах і калгасьнікаў—у МТС і калгасах.

5. Брыгадзіры, начальнікі атрадаў, калён і інш. камсклад трактароў МТС і МТК таксама трэба замацаваць на поўны палявы пэрыяд за вызначанымі групамі, атрадамі і калёнамі трактароў.

6. Замацаваньне робіцца адміністрацыяй МТС і МТК і паасобных калгасаў і саўгасаў па ўзгадненьні з мясцкомамі гаспадарчых адзінак і падлягае абавязковаму абгаварэньню на агульных сходах працаўнікоў вытворчых адзінак, якім падпарадкаваны трактары.

7. Гэта інструкцыя падлягае абавязковаму ажыцьцяўленьню да часу выхаду ў поле трактароў ва ўсіх трактарных калёнах і МТС БССР, а таксама і ў паасобных саўгасах, маючых трактары.

Нам. Упаўнаважан. СНК па пасеўкампаніі Масюкоў.
17 красавіка 1931 г.

## Пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР.

### 26. Пра ўніфікацыю аплаты працы на здабычы і выпрацоўцы торпу.

Для ўстанаўленьня адзінай формы аплаты працы на здабычы і выпрацоўцы торпу па БССР і на падрыхтоўцы балот, Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Увесьці на тэрыторыі БССР з 15 сакавіка 1931 г. адзіныя расцэнкі аплаты працы на здабычы торпу і падрыхтоўцы балот на 1931 г. паводле наступнае табліцы:

| Адзінка абмеру | Норма выпрац. кб/м абмеру | Плата за адзінку ў дзень |
|---|---|---|
| **Копка канаў на торпмасыве.** | | |
| 0,70×0,70×0,30 | 18 кб/мт. | 20 кап. |
| 0,70×1,00×0,30 | 15 „ | 25 „ |
| 2,00×1,60×0,50 | 10 „ | 35 „ |
| 4,00×2,00×1,00 | 8 „ | 45 „ |
| **Копка канаў па пясч. і сугліністаму грунту.** | | |
| 0,70×0,70×0,30 | 15 кб/мт. | 25 кап. |
| 0,70×1,00×0,30 | 13 „ | 30 „ |
| 2,00×1,60×0,50 | 8 „ | 40 „ |
| 4,00×2,00×1,00 | 6 „ | 50 „ |
| **Копка канаў па глiністаму грунту.** | | |
| 0,70×0,70×0,30 | 13 кб/мт. | 30 кап. |
| 0,70×1,00×0,30 | 10 „ | 35 „ |
| 2,00×1,60×0,50 | 7 „ | 45 „ |
| 4,00×2,00×1,00 | 5 „ | 60 „ |

Увага. Паказаныя нормы і расцэнкі ў асобных выпадках пры значнай пністасьці могуць быць зьніжаны, а расцэнкі павялічаны на месцы работ РКК.

#### Здабыча торпу.

Тарпянікі.

| Адзінка абмеру у тысячах цаглін,—вага | Норма выпрацоўкі ў дзень у тысячах цаглін,—вага | Плата за адзінку абм. ў дзень |
|---|---|---|
| Ад 1 да 1,5 тыс. | Ад 1 да 1,5 т. | 3 р. 88 кап. |

Увага. 1000 шт. цаглін па вазе складаюць у сярэднім 1 тону.

Тарпяніцы.

| | Норма выпрацоўкі ў дзень | Плата за тыс. цаглін |
|---|---|---|
| Заварочку . . . . . | 10.000 | 21,2 кап. |
| Укладка малых клетак. . . | 8.000 | 26,5 " |
| " вялікіх " . . . . | 7.000 | 30,3 " |
| " штабеляў . . . | 10 куб. м. | 21,2 за кб. м. |

2. За карчоўку лесу па балоту за га сярэдняя плата ўстанаўляецца ў 50 руб. Пры большай ці меншай густаце і вышыні зарасьці і пністасьпі цана павялічваецца ці памяншаецца, ня выходзячы ў сярэднім з вышэйпаказанай цаны.

3. За разьдзелку і кладку ў паляніцы выкарчаваных пнёў разьмерам паляніцы ў 10 мт. даўжыні, 1,5 мт. вышыні і 0,8 мт. шырыні, лічачы гэту паляніцу ў 10 куб. м., аплата ўстанаўляецца ў 7 руб.

4. Па плінтоўцы новых плошчаў для машына-фармовачнага торпу з разьбіўкаю вынутага з канаў грунту ўстанаўляецца штодзённая норма ў 300 кв. м. з аплатаю па 0,78 кап. за кв. м., а ў дзень—2 руб. 12 кап.

5. Нормы плінтоўкі для іншых спосабаў здабычы торпу вырашаюцца на месцы РКК у кожным паасобным выпадку.

6. Усім гаспадарчым арганізацыям прапануецца правесьці ў жыцьцё новыя расцэнкі з дня выданьня і апублікаваньня гэтае пастановы ў друку. Адказнасьць за правядзеньне гэтага ўскладаецца на кіраўнікоў устаноў і на кіраўнікоў работ.

7. На гарадзкіх і раённых інструктароў працы ўскладаецца кантроль за ажыцьцяўленьнем гэтае пастановы.

8. За парушэньне гэтае пастановы гаспадарчыя арганізацыі прыцягваюцца да судовай адказнасьці.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Ф. Пушчын.**

Загадчык Сэктару Арганізацыі і аздараўленьня умоў працы НКП БССР **З. Іофэ.**

Узгоднена з ЦП саюзу горнарабочых—**Гарагляд.**

15 сакавіка 1931 г.
№ 10/78.

## 27. Пра ўніфікацыю аплаты працы на мэліарацыйных работах.

Для ўстанаўленьня адзінай формы аплаты працы на мэліарацыйных работах па праводцы магістральных канаў і рэгуляваньні рэчак, Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

Увесьці на тэрыторыі БССР з 3 сакавіка 1931 г. адзіныя расцэнкі аплаты працы на мэліарацыйных работах, паводле наступнай табліцы:

## Магістральныя канавы.

| Грунт | Разьмеры (у мэтрах). | Норма выпрацоўкі (у куб. мэтр) | Расцэнкі за адзінку (у капейках за куб. мэтр.) |
|---|---|---|---|
| Пясчаны | Шырыня па дну да 2, глыб. 1,5, адкос 1 : 1½ | 10 | 40 |
| " | Шырыня па дну 2—3, глыбіня 1,5—2, адкос 1 : 1½ . . . . . . . . | 9 | 45 |
| " | Шырыня па дну 3—4, глыбіня 1,5—2,25, адкос 1 : 1½. . . . . . . | 7 | 55 |
| Тарпяны | Шырыня па дну да 2, глыбіня 1,5—2, адкос 1 : 1 . . . . . . . . | 12 | 32 |
| " | Шырыня па дну 2—3, глыбіня 1,5—2,45, адкос 1 : 1 . . . . . . . | 10 | 40 |
| " | Шырыня па дну 3—4, глыбіня 1,5—2, адкос 1:1 | 9 | 45 |
| Мяшаны | Шырыня па дну 2, глыбіня 1,3—2, адкос 1 : 1½ . . . . . . . . | 10 | 40 |
| " | Шырыня па дну 2, глыбіня 1,5—2, адкос 1 : 1½ . . . . . . . . | 9 | 45 |
| " | Шырыня па дну 3—4, глыбіня 1,5—2,25, адкос 1 : 1½. . . . . . . | 7 | 55 |
| | **Калектары** | | |
| Пясчаны | Шырыня па дну 0,40, глыбіня 1,20 . . | 12 | 33 |
| Тарпяны | Таксама . . . . . . . . | 13 | 30 |
| Мяшаны | Таксама . . . . . . . . | 12 | 33 |
| | **Асушыцелі.** | | |
| Тарпяны | | 15 | 27 |
| | **Рэгуляваньне рэчак.** | | |
| Мінэральн. | Шырыня па дну 1,70—2,50, глыбіня 1,50—1,80 | 7 | 56 |
| Мяшаны | Таксама . . . . . . . . | 9 | 45 |
| Тарпяны | Таксама . . . . . . . . | 10 | 40 |
| Мінэральн. | Шырыня па дну 3—5, глыбіня 1,7—2,0 . | 7 | 55 |
| Мяшаны | Таксама . . . . . . . . | 8 | 50 |
| Тарпяны | Таксама . . . . . . . . | 9 | 45 |
| Мінэральн. | Шырыня па дну 5—7, глыбіня 1,80—2,30 . | 6 | 65 |
| Мяшаны | Таксама . . . . . . . . | 6 | 65 |
| Тарпяны | Таксама . . . . . . . . | 8 | 50 |

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Саламонаў.**
Заг. Сэктару Аздараўленьня ўмоў працы НКП БССР **З. Іофэ.**
Ст. Інспэктар **Марозаў.**

3 сакавіка 1931 г.





**28. Пра скасаваньне пастановы пра ільготы для вучняў вячэрняга сэктару Камуністычнага Унівэрсытэту БССР імя Леніна.**

На падставе дырэктывы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР за 25/III-1931 г. (газэта „Праўда“ за 26/III-31 г.) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

Скасаваць пастанову сваю за 2/IV-1930 г. № 34 пра ільготы для вучняў вячэрняга сэктару Камуністычнага Унівэрсытэту імя Леніна (Бюл. СНК 1930 г. № 12, паст. 119).

Нам. Народнага Камісара
Працы БССР **Ф. Пушчын.**

Заг. Сэктару Арганізацыі і аздараўленьня
ўмоў працы НКП БССР **З. Іофэ.**

9 красавіка 1931 г.
№ 13/81.

**29. Пра скасаваньне пастановы за 27/X-1930 г. № 53 пра расцэнкі на возку пяску.**

На падставе распрацаваных адзіных Усесаюзных расцэнак на вывазку пяску ўсіх відаў, зацьверджаных НКП СССР 23/III-1931 г., НК Працы БССР пастанаўляе:

Скасаваць пастанову сваю за 27|X-30 г. № 53 (Бюл. СНК БССР 1930 г. № 23) і прапанаваць усім гаспадарчым арганізацыям кіравацца паказанай вышэй пастановай НК Працы СССР.

Нам. Народнага Камісара
Працы БССР **Ф. Пушчын.**

Заг. Сэктару Арганізацыі і аздараўленьня
умоў працы НКП БССР **З. Іофэ.**

11 красавіка 1931 г.
№ 14/82.

## Абежнік Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР.

**30. Аб уступленьні ў склад юрыдычных членаў Таварыства „Аўтадор“ аб'яднаньняў, трэстаў і прадпрыемстваў ВСНГ БССР.**

*Усім аб'яднаньням, трэстам і прадпрыемствам ВСНГ БССР.*

Паводле статуту Т-ва „Аўтадор“, членамі яго могуць быць усе савецкія ўстановы, прадпрыемствы, арганізацыі і іншыя юрыдычныя асобы. На падставе гэтага тлумачыцца, што побач з цэнтральнымі органамі прамысловасьці, юрыдычнымі членамі „Аўтадору“ могуць быць і асобныя трэсты і ўваходзячыя ў іх прадпрыемствы.

На падставе абежнага распараджэньня ВСНГ СССР за № 83 і ў мэтах аказаньня Т-ву „Аўтадор" рэальнай дапамогі ў справе правадзімай ім работы па аўтамабілізацыі, трактарызацыі і дарожнаму будаўніцтву БССР, Прэзыдыум ВСНГ БССР лічыць пажаданым і рэкамендуе Вам уступіць у лік юрыдычных членаў Т-ва „Аўтадор".

Нам. Старшыні Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР **Васкабойнікаў.**

Кіраўнік Спраў ВСНГ БССР **Ільлінкоў.**

25 сакавіка 1931 г.
№ 5.

Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Друкарня Кір.Спраў СНК і ЭКАНА. Галоўлітбел. № 293 Зак. № 246 Тыр. 5.800 экз.

